*На сённяшні дзень, паводле маіх дадзеных, у беларускіх турмах ніякіх рэпарцёраў няма. Аднак гэтага мала для таго, каб казаць, што мы рухаемся наперад. Я не бачу ніякага імкнення паслабіць строга рэгламентаванае заканадаўства ў галіне СМІ.*

*Дуня Міятавіч*
*прадстаўнік Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) па пытаннях свабоды СМІ*

*На думку камісіі, у цяперашні час унясенне карэктыровак у акты заканадаўства Беларусі ў галіне свабоды выказвання меркавання не патрабуецца.*

*Андрэй Навумовіч,*
*старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі*



# СТАНОВІШЧА Ў ГАЛІНЕ СМІ Ў ВЕРАСНІ-КАСТРЫЧНІКУ 2014 г. (агляд)

З пачатку восені асаблівую трывогу выклікае пераслед беларускіх журналістаў за размяшчэнне іх матэрыялаў у замежных СМІ (у тым ліку ў выглядзе штрафаў, тоесных сярэдняй заработнай плаце беларускага грамадзяніна.)

Сярод іншых падзеяў, якія ўплывалі на свабоду СМІ ў Беларусі ў гэтыя месяцы, трэба вылучыць:

- **вынясенне судовага рашэння, паводле якога тэлеканалу «Белсат» забараняецца выкарыстоўваць сваю назву;**
- **затрыманні журналістаў.**

# АСНОЎНЫЯ ПАДЗЕІ Ў ГАЛІНЕ СМІ Ў ВЕРАСНІ-КАСТРЫЧНІКУ 2014 г.

## ШТРАФЫ ЖУРНАЛІСТАМ ЗА РАЗМЯШЧЭННЕ ІХ МАТЭРЫЯЛАЎ У ЗАМЕЖНЫХ СМІ


svaboda.org

**16 верасня** ў Магілёве супрацоўнікі міліцыі з санкцыі пракурора правялі агляды ў кватэрах мясцовага журналіста Аляксандра Буракова і яго бацькоў. Падчас аглядаў былі сканфіскаваныя кампутары і сістэмныя блокі, якія належалі журналісту і ягоным сваякам. Гэтыя дзеянні міліцыі былі спрычыненыя з'яўленнем артыкула за подпісам журналіста на сайце «Дойчэ Вэлле».

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што правядзенне аглядаў у кватэрах А.Буракова і яго бацькоў, а таксама сканфіскоўванне аргтэхнікі, як і затрыманне ў той дзень трох журналістаў у Мінску, адбыліся падчас візіту ў краіну прадстаўніка АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуні Міятавіч.

**30 верасня** журналісту вярнулі два сканфіскаваныя ноўтбукі і адзін сістэмны блок. Яшчэ адзін сістэмны блок застаўся ў міліцыі.

**8 кастрычніка** А.Буракоў быў аштрафаваны судом Ленінскага раёна г. Магілёва на 6 мільёнаў беларускіх рублёў (прыкладна 450 еўра). Суд прызнаў публікацыю журналіста на сайце рускай службы радыёстанцыі «Дойчэ Вэлле» без акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў Беларусі парушэннем заканадаўства пра СМІ і абгрунтаваннем для вынясення штрафу.




**25 верасня** за дзейнасць без акрэдытацыі была асуджана бабруйская журналістка Марына Малчанава. «Незаконным вырабам і распаўсюдам прадукцыі СМІ» міліцыя і суд палічылі размяшчэнне матэрыяла за яе подпісам на сайце польскага тэлеканала «Белсат ТВ». У выніку журналістка была аштрафаваная на суму, тоесную 350 еўра (4 800 000 беларускіх рублёў).




**7 кастрычніка** суд Кастрычніцкага раёна г. Гродна аштрафаваў гродзенскага журналіста Андрэя Мялешку на суму, тоесную 400 еўра (5 250 000 беларускіх рублёў), за публікацыю на сайце «Беларускага Радыё Рацыя» (Польшча). Гэта быў ужо другі штраф, вынесены журналісту судамі Гродна за прафесійную дзейнасць без акрэдытацыі. Раней, 16 чэрвеня, суд Ленінскага раёна г. Гродна аштрафаваў яго за супрацоўніцтва з «Беларускім Радыё Рацыя» на 4 500 000 беларускіх рублёў (каля 340 еўра).

**Ва ўсіх апісаных вышэй выпадках абгрунтаваннем для застасоўвання санкцыяў у дачыненні да журналістаў быў не змест іх матэрыялаў, а сам факт з'яўлення публікацыяў у замежных СМІ.**

**26 верасня** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» заявіла пра неправамернасць пераследу рэпарцёраў, чые імёны і творы з'яўляюцца ў замежных СМІ. На думку БАЖ, такая практыка парушае як унутранае заканадаўства Рэспублікі Беларусь, гэтак і міжнародныя абавязальніцтвы дзяржавы ў галіне свабоды выказвання меркавання.

З пратэстамі ў сувязі з пераследам беларускіх журналістаў, якія размяшчаюць свае матэрыялы ў замежных СМІ, выступілі таксама Прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч і Шведскі саюз журналістаў.




## СУДОВАЯ ЗАБАРОНА СПАДАРОЖНІКАВАМУ КАНАЛУ «БЕЛСАТ ТВ» ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ СВАЮ НАЗВУ Ў БЕЛАРУСІ

**4 верасня** Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь забараніў кампаніі Telewizja Polska (заснавальніку тэлеканала «Белсат ТВ») выкарыстоўваць гандлёвы знак «Белсат». Такім чынам было задаволена патрабаванне ўладальніка беларускай фірмы «БЕЛСАТплюс» Андрэя Белякова.

На пачатку года калегія Вярхоўнага суда па інтэлектуальнай уласнасці адхіліла позву А.Белякова і вынесла рашэнне на карысць тэлеканала. Аднак праз 6 месяцаў, у чэрвені 2014 г., Прэзідыум Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь адмяніў гэта рашэнне і накіраваў справу на новы разгляд. У выніку той самы суд вынес адваротнае рашэнне і забараніў тэлеканалу выкарыстоўваць абазначэнні «Белсат ТВ / Belsat TV» падчас трансляцыяў на тэрыторыю Беларусі, а таксама на старонках сайту тэлеканала, да якіх маюць доступ беларускія карыстальнікі Інтэрнэту.

На думку дырэктара тэлеканала Агнешкі Рамашэўскай-Гузы, суд супраць «Белсат» палітычна матываваны, і рашэнне пра забарону на выкарыстанне гандлёвага знака – гэта яшчэ адзін факт, які сведчыць, што справа застаецца пад кантролем уладаў Беларусі.

**«Белсат» – незалежны спадарожнікавы тэлеканал, створаны ў 2007 годзе паводле дамовы паміж польскім Міністэрствам замежных спраў і Польскім тэлебачаннем (Telewizja Polska). Вяшчанне тэлеканала разлічана на беларускую аўдыторыю. З моманту стварэння «Белсат ТВ» Польскае тэлебачанне неаднаразова намагалася атрымаць легальны статус для тэлеканала ў Беларусі. Аднак гэтыя спробы поспеху не мелі. Беларускія журналісты, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам (гэтаксама і тыя, хто супрацоўнічае з іншымі замежнымі СМІ), неаднаразова атрымоўвалі папярэджанні пракуратуры і КДБ. З вясны 2014 г. іх пачалі штрафаваць за дзейнасць без акрэдытацыі ў Міністэрстве замежных спраў.**



## ЗАТРЫМАННІ ЖУРНАЛІСТАЎ

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» зафіксавала 7 выпадкаў затрымання журналістаў супрацоўнікамі міліцыі ў верасні-кастрычніку 2014 г. Пры гэтым трое з іх былі затрыманыя ў Мінску 16 верасня, падчас афіцыйнага візіту Прадстаўніка АБСЕ па пытаннях СМІ Дуні Міятавіч, у межах якога быў праведзены семінар па ўзаемадзеянні органаў правапарадку і СМІ.

Усяго з пачатку года па кастрычнік уключна БАЖ зафіксаваў 26 кароткачасовых затрыманняў журналістаў. Ва ўсіх выпадках журналісты былі вызваленыя на працягу трох гадзін з моманту затрымання без складання пратаколаў. Гэта трошкі менш, чым было раней: у 2013 годзе было больш за 50 затрыманняў журналістаў, а ў 2012 годзе – каля 60 выпадкаў.

# РЭЙТЫНГІ, ІНДЭКСЫ, СТАТЫСТЫКА

## БЕЛАРУСЬ ЗАСТАЕЦЦА НА АПОШНІМ МЕСЦЫ Ў РЭЙТЫНГУ СВАБОДЫ СМІ КРАІНАЎ УСХОДНЯГА ПАРТНЁРСТВА

Паводле вынікаў першага паўгоддзя 2014 г., апублікаваных у верасні, Беларусь і Азербайджан маюць найгоршыя паказчыкі ў галіне свабоды СМІ сярод краінаў Усходняга партнёрства. Лідарам у Індэксе свабоды медыяў Усходняга партнёрства застаецца Грузія. На другім месцы – Малдова. Трэцяе месца займае Украіна, якая памянялася пазіцыямі з Арменіяй. На думку экспертаў, перасунуцца з апошняй пазіцыі Беларусі не дазваляе шэраг стабільна дрэнных паказчыкаў: у прыватнасці, рэпрэсіўнае заканадаўства пра СМІ, адсутнасць грамадскага тэлебачання, а таксама татальны кантроль дзяржавы за тэлерадыёвяшчаннем у краіне.

EaP Media Freedom Watch

**Штоквартальнае складанне Індэксу свабоды медыяў Усходняга партнёрства з'яўляецца часткай праекту EaP Media Freedom Watch, які ажыццяўляецца МГА «Інтэрньюз-Украіна» у супрацоўніцтве з няўрадавымі арганізацыямі пяці іншых дзяржаваў Усходняга партнёрства. Індэкс вылічваецца шляхам сумiравання атрыманых краінамі-ўдзельніцамі балаў у чатырох катэгорыях: «Палітыка», «Практыка», «Тэлерадыёвяшчанне», «Інтэрнэт і новыя медыі». Удзел у складанні рэйтынгу бяруць каля 60 экспертаў у галіне СМІ.**

## У БЕЛАРУСІ НАЙЧАСЦЕЙ ПЕРАСЛЕДУЮЦЬ ЗА ВЫКАЗВАННЕ МЕРКАВАННЯ

Беларускія ўлады часцей за ўсё пераследуюць грамадзянаў за выказванне меркавання. Да такой высновы прыйшлі ў гомельскім «Цэнтры стратэгічных цяжбаў» па выніках аналізу ўсіх рашэнняў Камітэта ААН па правах чалавека па беларускіх справах. Кіраўнік Цэнтра Леанід Судаленка падкрэсліў, што

Центр стратегической тяжбы

кожная другая беларуская справа, разгледжаная ў Жэневе, мае адносіны да пераследу грамадзян за выказванне думак.

Да цяперашняга часу Камітэт па справах чалавека прыняў 68 рашэнняў па беларускіх справах. У 34 з іх было ўстаноўлена парушэнне права заяўнікаў на выказванне меркавання.

